©ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 №24 (1), 2016

Радзівон Попель

# “Точка опори” ці “литовська окупація”: дзеячы ўкраінскага нацыянальнага руху XIX – першай паловы XX стагоддзя пра далучэнне ўкраінскіх земляў да Вялікага Княства Літоўскага

XIX – пачатак XX стагоддзя – час імклівых змен у еўрапейскай гісторыі, эпоха хуткай мадэрнізацыі, падзення адных дзяржаў і з'яўлення іншых. І канешне, гэта час станаўлення нацыянальнай самасвядомасці цэлага шэрагу народаў. Развіццё нацыянальных рухаў заўсёды неад'емна суправаджаецца выпрацоўкай канцэпцый нацыянальнай гісторыі, на якія народ і дзяржава абапіраюцца ў абгрунтаванні свайго права на існаванне ў сучасным свеце. А гэта, у сваю чаргу, вядзе да стварэння нацыянальнай гістарыяграфіі, якая можа даць абгрунтаваныя адказы на неабходныя пытанні гістарычнага развіцця.

Усе гэтыя асаблівасці ў поўнай ступені характэрны і для ўкраінскага нацыянальнага руху, станаўленне якога прыпадае якраз на XIX – пачатак XX стагоддзя. Пачаўшы з думак пра этнаграфічна-культурную адметнасць свайго народу, прайшоўшы праз этап разумення неабходнасці культурнай і палітычнай аўтаноміі, дзеячы ўкраінскага нацыянальнага руху прыйшлі да разумення неабходнасці стварэння сваёй незалежнай дзяржавы. На ўсім гэтым шляху адбывалася натуральнае развіццё ўяўленняў пра гісторыю Украіны, складанне нацыянальных гістарычных канцэпцый, карані якіх знаходзіліся ў больш ранніх стагоддзях. Так паступова ішло і станаўленне нацыянальнай гістарычнай навукі.

Адным з найбольш значных пытанняў, якое стаяла перад украінскім нацыянальным рухам і нацыянальнай гістарыяграфіяй XIX – пачатку XX стагоддзя, было вызначэнне гістарычнай генеалогіі ўкраінскага народа і дзяржаўнасці. Зразумела, што ў такім пытанні ніяк нельга было абысці бокам гістарычную і культурную спадчыну Старажытнай Русі. У гэтых умовах паступова складаецца канцэпцыя генетычнай сувязі ўкраінскай і старажытнарускай

гісторыі, якая асабліва яскравае афармленне атрымлівае ў канцэпцыі Украіны-Русі Міхаіла Грушэўскага (Грушевський, 1991б, 1993, 1994, 1995а, 1995б). Пры гэтым актывізуецца натуральны інтарэс украінскай інтэлектуальнай эліты да гісторыі сярэднявечнай Кіеўскай, у пэўнай ступені Галіцка-Валынскай дзяржаў IX–XIII стагоддзяў, якія разумеюцца як зыходныя кропкі развіцця ўкраінскай дзяржаўнасці (Бобіна, 2002: 15–16). Наступнай эпохай, на якой традыцыйна канцэнтруецца ўвага ўкраінскай гістарыяграфіі, з’яўляецца час казаччыны (з канца XVI, але ў большай ступені XVII–XVIII стагоддзі). Высокія адзнакі тут звычайна атрымліваюць спробы стварэння казацкай дзяржаўнасці і барацьба за адстойванне суб’ектнасці Украіны ў геапалітычных рэаліях таго часу.

Трэба адзначыць, што гістарычнай эпосе, якая знаходзілася паміж названымі вышэй звышзначнымі для ўкраінскай гістарыяграфіі храналагічнымі перыядамі – старажытнарускім і казацкім – адводзіцца значна менш увагі (Бобіна, 2002: 15–16). Гістарычны прамежак ад мангольскага нашэсця да ўздыму казаччыны (XIII – другая палова XVI стагоддзя) ва ўкраінскай гістарыяграфіі ды грамадскай гістарычнай памяці і на сённяшні дзень адлюстраваны не вельмі выразна. Зразумела, што такі стан рэчаў узыходзіць наўпрост да гістарычных канцэпцый украінскага нацыянальнага руху. Прычына гэтаму – і адсутнасць у татарскі і “літоўскі” перыяды на ўкраінскіх землях незалежнай дзяржаўнасці, і дастаткова невялікая колькасць захаваных крыніц.

Усё сказанае вышэй у поўнай ступені датычыцца знаходжання значнай часткі ўкраінскіх земляў у складзе Вялікага Княства Літоўскага (з 40-х ці 60-х гадоў XIV стагоддзя да Люблінскай уніі 1569 года). Трэба прызнаць, што ён ніколі не прыцягваў значнай увагі ні з боку дзеячаў украінскага нацыянальнага руху, ні з боку пазнейшай гістарыяграфіі Украіны. Па гэтай прычыне сярод сучасных украінскіх гісторыкаў гэты перыяд нават атрымаў назву “цёмных часоў” (Русина, 1993). Цікава, што падобныя адзнакі даваў яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя Мікалай Кастамараў: *“К сожалению, история Южной, Киевской, Руси, как будто проваливается после Татар”* (Костомаров, 1861: 48). Як бачым, за мінулыя больш чым паўтара стагоддзя адзнакі практычна не змяніліся. Але, на наш погляд, захаванне і надалей такога стану наўрад ці з’яўляецца мэтазгодным – з гісторыяй Вялікага Княства звязана нямала яркіх старонак украінскай мінуўшчыны. Пры гэтым відавочна, што і айцы-заснавальнікі ўкраінскай нацыянальнай гістарыяграфіі ніяк не маглі наогул абыйсці ўвагай такі доўгі, больш за двухсотгадовы, перыяд сваёй гісторыі. Спецыяльных прац “літоўскаму” перыяду гісторыі сваёй айчыны дзеячы ўкраінскага нацыянальнага руху прысвяцілі зусім няшмат. Тым не менш у іх творах, як грамадска-палітычнага, так і гістарычнага зместу, неаднаразова сустракаюцца адзнакі знаходжання ўкраінскіх земляў у складзе ВКЛ, а

таксама і іх пераходу ў розныя зоны палітычных уплываў: Залатая Арда – ВКЛ – Польшча.

Для нас жа даследаванне праблемаў далучэння ўкраінскіх земляў да ВКЛ і знаходжання іх у складзе гэтай дзяржавы можа ўяўляць значны інтарэс. Сапраўды, на працягу некалькіх стагоддзяў у Познім Сярэднявеччы і Раннім Новым часе землі Беларусі і Украіны знаходзіліся ў складзе адзінай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага. Нашыя краіны і народы былі непасрэдна закранутыя ўсімі значнымі працэсамі палітычнага, сацыяльна-эканамічнага жыцця гэтай дзяржавы, а культуры і дагэтуль нясуць адбітак тагачасных уплываў.

У дадзеным артыкуле не ставіцца задача пералічыць усе згадкі пра "літоўскі" перыяд у ранняй украінскай гістарыяграфіі, але робіцца спроба прасачыць найбольш значныя з іх у творах удзельнікаў украінскага нацыянальнага руху XIX – першай паловы XX стагоддзя. Як жа ставіліся дзеячы ўкраінскага нацыянальнага руху да далучэння земляў Украіны да Вялікага Княства Літоўскага?

Спачатку звернемся да твораў аднаго з папярэднікаў украінскай нацыянальнай гістарыяграфіі і грамадскага дзеяча **Мікалая Іванавіча Кастамарава** (1817–1885). Збіральнік помнікаў украінскай этнаграфіі і таленавіты паэт, М. Кастамараў з'яўляўся адным з заснавальнікаў Кірыла-Мяфодзіеўскага таварыства – таемнай арганізацыі, што выступала за аўтаномію Украіны ў складзе канфедэрацыі славянскіх народаў (Костомаров, 1918). На грамадска-палітычныя погляды сяброў таварыства моцны ўплыў аказвалі ідэі хрысціянства. Пасля разгрому ў 1847 годзе Кірыла-Мяфодзіеўскага таварыства М. Кастамараў працягваў удзел у нацыянальным руху, у тым ліку стаў адным з заснавальнікаў украінскай суполкі "Громада" ў Санкт-Пецярбургу.

У 1861 годзе выйшла праца М. Кастамарава "Две русские народности", у якой аналізуецца гісторыя ўкраінскага ("южнорусского") і рускага ("великорусского") народаў, што выйшлі з кораня Старажытнай Русі (Костомаров, 1861: 33). У гэтай рабоце ўтрымліваецца ацэнка ролі Вялікага Княства Літоўскага ў гісторыі Русі і Украіны. Мікалай Кастамараў лічыў, што далучэнне ўкраінскіх земляў да ВКЛ было станоўчым этапам у гісторыі раздробленых паўднёвarускіх земляў, калі яны здолелі вызваліцца ад татарскай няволі і кансалідавацца вакол аднаго дзяржаўнага цэнтра, лічыў, што *"литовское владычество обновило одряхлевший, разложившийся порядок"* (Костомаров, 1861: 48). Сапраўды, Вялікае Княства з яго цэнтралізатарскай палітыкай апынулася тут канструктыўнай сілай, кропкай прыцягнення для ўкраінскіх земляў. *"... Прибытие Литовской Руси на берега Днепра обновило и поддержало упавшия силы, разложившияся под напорами чуждых народов"* (Костомаров, 1861: 49).

Вялікае Княства Літоўскае для Кастамарава – сімбіёз элементаў Русі і Літвы. Аб'яднанне ВКЛ вакол сябе славянскіх земляў стала тым штуршком, які сабраў раздробленыя

землі Русі ў *"одно политическое тело и сообщил им новое соединительное прозвище — Литва"* (Костомаров, 1861: 39). Кастамараў заўважае, што назва "Літва" з цягам часу стала гісторыка-культурнай спадчынай Беларусі, а найменне "Русь" засталося за Украінай. Хоць тут мы можам у некаторай ступені паспрачацца з ім: якраз у назве нашай краіны засталася відавочная адсылка да Русі, а за краінай суседняй замацавалася назва Украіны. Што, канешне, ніяк не прыніжае значнасць для нашых народаў спадчыны гістарычнай Літвы.

Высока адзначае М. Кастамараў і ролю сацыяльна-палітычнага і культурнага ўплыву Русі на Вялікае Княства Літоўскае. Абрусеўшыя князі новай дынастыі Гедымінавічаў фактычна замянілі прадстаўнікоў былой дынастыі Рурыкавічаў, "уклініўшыся" ва ўжо існаваўшую сацыяльна-культурную матрыцу (Костомаров, 1861: 49). Сапраўды, гэта думка з'яўляецца традыцыйнай і для гістарыяграфіі нашых дзён, але ўсё ж Кастамараў не змешваў цалкам паняцці Літвы і Русі, адасабляючы ад іх і Масковію. Так, у XV стагоддзі ён вылучаў чатыры цэнтры ўсходнеславянскага свету: *"Новгород, Московия, Литва и Русь"*, а ў XVI–XVII стагоддзях – тры цэнтры: *"Московия, Литва и Русь"* (Костомаров, 1861: 39). Як бачым, розніца для М. Кастамарава тут палягае не толькі ў дзяржаўнай прыналежнасці гэтых рэгіёнаў, але і ў этнічна-культурным змесце.

Нягледзячы на ўсе пазітыўныя моманты далучэння ўкраінскіх земляў да ВКЛ, М. Кастамараў лічыць, што з цягам часу ўлада Вялікага Княства Літоўскага (тым больш далей Польшчы) перастала адпавядаць інтарэсам украінскага народа. Першая прычына гэтага ў пэўнай адарванасці княжацкай эліты ад інтарэсаў простага народа, князі, на думку Кастамарава, сталі ўсё больш *"играть своею судьбою"* – канцэнтравацца на сваіх уласных праблемах. Другая прычына – ва ўсё большай паланізацыі і акаталічванні, якія Кастамараў (а як мы будзем бачыць далей, і іншыя дзеячы ўкраінскага нацыянальнага руху) ацэньваў дастаткова негатыўна (Костомаров, 1861: 59–60). Новы пад'ём ва ўкраінскай гісторыі М. Кастамараў звязваў, канешне ж, з казацкімі часамі. Казаччыну ён хоць і лічыў рэччу неадназначнай, у пэўнай ступені разбуральнай, але бачыў ў ёй элементы народнага руху, самавызначэнне і рэалізацыю свабоды простага народу ў супрацьвагу інтарэсам усё больш адарванай ад яго арыстакратычнай эліты (Костомаров, 1861: 47–49).

Ідэі Мікалая Кастамарава можна параўнаць з поглядамі такой буйной постаці тагачаснай украінскай гістарыяграфіі, як Уладзімір Антановіч, ды знайсці там шмат агульнага.

**Уладзімір Баніфацьевіч Антановіч** (1834–1908) – прафесар Кіеўскага ўніверсітэта, які стаяў ля вытокаў украінскай нацыянальнай гістарычнай школы. Яго вучнямі былі многія таленавітыя гісторыкі, у тым ліку Мітрафан Доўнар-Запольскі. Вядомы У. Антановіч і як грамадскі дзеяч, які непасрэдна ўдзельнічаў у арганізацыі хлапаманскага руху.

Ён жа быў адным са стваральнікаў Кіеўскай (Старой) Грамады – суполкі, якая існавала з 1859 да 1876 года і спалучала элементы таемнага таварыства і культурна-асветніцкай арганізацыі.

Асноўнай працай У. Антановіча, прысвечанай ВКЛ, з'яўляецца абаронены як доктарская дысертацыя "Очерк истории Великого княжества Литовского до смерти великого князя Ольгерда" (1877–1878). Сапраўды, Антановіч прысвяціў ВКЛ дастаткова аб'ёмную працу, што сведчыць пра ягоную цікавасць да гісторыі гэтай старадаўняй краіны. Аднак у дадзеным творы разглядаецца агульная гісторыя ВКЛ у адзначаны перыяд, а не менавіта ўкраінскі яе аспект. Для нас жа тут перадусім цікава пазіцыя Антановіча па пытанні магчымага першаснага далучэння Кіеўскай зямлі да ВКЛ пры Гедыміне ў 1320-х гадах. У другой частцы "Очерка", якая называецца "Витень и Гедымин", У. Антановіч аналізуе летапісныя звесткі і папярэднюю гістарыяграфію і прыходзіць да высновы, што паход Гедыміна на Кіеў і бітва на рацэ Ірпень ніколі не адбываліся, а ў рэчаіснасці гэта больш позні гістарыяграфічны канструкт. "Мнимым завоеванмем" ён лічыць і далучэнне Гедымінам Валыні (Антонович, 1995б: 661). У далейшым пытанне пра тое, калі на самой справе адбылося першае далучэнне Кіеўскай зямлі да ВКЛ – пры Гедыміне ў 1320-х гадах ці пры Альгердзе ў 1360-х, – так і не было вырашана канчаткова, застаецца яно прадметам спрэчак і на сённяшні дзень. Сярод сучасных навукоўцаў, якія як і Антановіч лічаць, што Кіеўшчына была далучана да ВКЛ менавіта Альгердам пасля бітвы на Сініх Водах 1362 года, можна назваць Алену Русыну (Русина, 2005: 38–60).

У трэцяй частцы свайго "Очерка" – "Ольгерд и Кейстут. 1341–1377" У. Антановіч прыходзіць да высновы, што галоўнай прычынай далучэння Кіеўшчыны да ВКЛ у 1362 годзе было аслабленне Арды, якое суправаджалася пастаяннымі татарскімі міжусобіцамі на фоне ўзмацнення Вялікага Княства Літоўскага (Антонович, 1995б: 731–732). Цікавая думка – Вялікае Княства Літоўскае пачало актыўную экспансію на паўднёвым напрамку (і вельмі паспяхова) менавіта з-за слабасці паўднёвых супернікаў – варагуючых між сабой татарскіх ханстваў. Пры гэтым галоўным праціўнікам ВКЛ у "збіранні" земляў Русі, лічыць Антановіч, у гэты час становіцца Маскоўскае княства, якое, нягледзячы на пэўныя поспехі Літвы, абмяжоўвае яго экспансію на ўсход. *"Гораздо более обширны и легки были приобретения Ольгерда в южнорусских областях"* (Антонович, 1995б: 731). Гэта, на думку Антановіча, і вызначыла такі моцны рост ВКЛ перадусім у паўднёвы бок. Цяжэй ішло далучэнне Валыні і Падолля, дзеля якіх ВКЛ прыйшлося сутыкнуцца з больш сур'ёзным у параўнанні з ардынцамі супернікам – Польшчай (Антонович, 1995б: 695, 699).

У. Антановіч, як і М. Кастамараў, пазітыўна ацэньвае далучэнне ўкраінскіх земляў да ВКЛ. Іх аргументы таксама дастаткова падобныя. ВКЛ вызваліла ўкраінскія землі ад татараў і стварыла спрыяльныя

ўмовы для іх далейшага эканамічнага і культурнага развіцця. Землі Паўднёвай Русі *“находят точку опоры в Великом княжестве Литовском”,* – піша У. Антановіч у іншай сваёй працы “Киев, его судьба и значение с XIV по XVI столетие”, якая ўпершыню выйшла ў 1882 годзе (Антонович, 1995а: 539). Дадзены артыкул асабліва цікавы для нас па той прычыне, што мы можам назваць яго амаль што ўнікальным – гэта той вельмі рэдкі выпадак, калі работа прысвечана менавіта “літоўскаму” перыяду ўкраінскай гісторыі. Прычыны ўваходжання ўкраінскіх земляў ў склад ВКЛ называюцца тыя ж, што і ў папярэдняй працы. Пры гэтым падкрэсліваецца, што далучэнне да Вялікага Княства Літоўскага вызваляла землі Русі і ад княжацкіх міжусобіц, ад якіх яны пакутавалі не менш, чым ад татарскіх нападаў (Антонович, 1995а: 539).

Безумоўна, станоўчае значэнне мела кансалідацыя земляў Паўднёвай Русі ў складзе ВКЛ: *“многочисленные русские земли оказались вновь соединенными в пределах быстро развившегося Русско-Литовского государства”* (Антонович, 1995а: 540). Такім чынам, ВКЛ разглядаецца менавіта як Руска-Літоўская дзяржава, якая складалася з *“двух элементов, разнородных в этнографическом, религиозном, бытовом и культурном отношениях”.* Пры гэтым У. Антановіч адзначае вялізную ролю ўплываў Русі ў сацыяльна-культурным жыцці ВКЛ: *“При взаимном воздействии обоих национальных начал, несомненно – литовское должно было подчиниться русскому, заимствовать его цивилизацию и занять в общем государстве второстепенное место”* (Антонович, 1995а: 540). Праўда, далей сітуацыя стала паступова пагаршацца з-за распаўсюджвання каталіцызму і іншых польскіх культурных уплываў (Антонович, 1995а: 539). Асабліва моцнай гэтая тэндэнцыя становіцца пасля Люблінскай уніі 1569 года, калі адбыўся пераход украінскіх земляў у склад Польшчы, на што У. Антановіч звяртае ўвагу ў шэрагу сваіх прац, напрыклад, у брашуры “Очерк отношений польского государства к православию и православной церкви” (1866).

Прафесійным гісторыкам быў і вядомы ўкраінскі грамадска-палітычны дзеяч **Міхаіл Сяргеевіч Грушэўскі** (1866–1934). Прафесар гісторыі Львоўскага ўніверсітэта, вучань У. Антановіча, М. Грушэўскі зрабіў такі ўнёсак у развіццё ўкраінскай гістарыяграфіі, які цяжка пераацаніць. Ён, як мы зазначалі вышэй, з канца XIX стагоддзя актыўна распрацоўваў канцэпцыю Украіны-Русі, якая аказала надзвычай моцны ўплыў на наступную гістарыяграфію Украіны. Разам з тым Міхаіл Грушэўскі з’яўляўся буйной палітычнай постаццю, чыя бурлівая дзейнасць прыпадае ўжо на пачатак XX стагоддзя. Удзельнік, умоўна кажучы, дэмакратычнага, рэспубліканскага кірунку ўкраінскага нацыянальнага руху, М. Грушэўскі быў першым прэзідэнтам Цэнтральнай Рады Украінскай Народнай Рэспублікі (1917–1918), а гэта значыць першым кіраўніком незалежнай украінскай дзяржавы.

Розныя аспекты гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, у тым ліку і ўк-

раінскі, М. Грушэўскі закранае ў цэлым шэрагу сваіх прац, такіх як "Ілюстрована історія України" (1913), "Велика, Мала і Біла Русь" (1917). Але для нас найбольшую цікавасць уяўляе фундаментальная праца Міхаіла Грушэўскага "Історія України-Руси", дзесяць тамоў якой пісаліся на працягу 1895–1933 гадоў. Пытанні далучэння ўкраінскіх земляў да ВКЛ разглядаюцца перадусім у чацвёртым томе "XIV–XVI віки – відносини політичні" (Грушевський, 1993: 3–99, 159–226, 265–29). Розныя бакі знаходжання Украіны ў складзе ВКЛ закранаюцца ў томе пятым "Суспільно-політичний і церковний устрій і відносини в українсько-руських землях XIV–XVII в." і шостым "Житє економічне, культурне, національне XIV–XVII віків", пачатак казаччыны ў ВКЛ – у сёмым томе "Козацькі часи – до року 1625" (Гушевский, 1994: 1–72, 99–175, 205–421; 1995а: 1–538; 1995б: 1–151).

На першы погляд можа здавацца, што М. Грушэўскі, у параўнанні з У. Антановічам і М. Кастамаравым, меў некалькі іншую пазіцыю ў адносінах да ацэнкі "літоўскага" перыяду гісторыі Украіны. Далучэнне ўкраінскіх земляў да ВКЛ ён разумеў як "*окупацію українських земель Литвою*" (Грушевський, 1993: 1–9). Наогул гэтая фраза сустракаецца ў работах Грушэўскага вельмі часта. Вынесена яна нават у назвы раздзелаў "Історії України-Руси". Так, першы раздзел чацвёртага тома мае назву "Окупація українських земель Литвою й Польщею" (Грушевський, 1993: 1). Пры гэтым далучэнне Кіеўшчыны да ВКЛ Грушэўскі тлумачыць тымі ж аргументамі, як і яго папярэднікі, – слабасцю раздробленых княстваў Паўднёвай Русі, заняпадам Залатой Арды, што дало магчымасць для хуткай экспансіі ВКЛ менавіта на паўднёвым напрамку. "*...В українських землях подніпрянських, східніх територіальні здобутки могли робити ся з мінімальною тратою енерґії*" (Грушевський, 1993: 6). У адрозненне ад У. Антановіча М. Грушэўскі ставіцца да летапісных звестак пра кіеўскі паход Гедыміна і бітву на рацэ Ірпень больш рэалістычна, хоць і лічыць немагчымым прымаць на веру ўсю легенду пра далучэнне Кіеўскай зямлі да ВКЛ ужо ў першай палове XIV стагоддзя. Тым не менш, па меркаванні Грушэўскага, пэўныя часткі Кіеўскай зямлі (а можа, і яна ўся) падчас праўлення Гедыміна, магчыма, нават і ў ранейшыя часы, сапраўды пападалі ў залежнасць ад Вялікага Княства Літоўскага (Грушевський, 1993: 1).

Міхаіл Грушэўскі, які рашуча адстойваў канцэпцыю Украіны-Русі, сапраўды ставіўся да літоўскага і польскага перыядаў у гісторыі Украіны як да іншаземнай анексіі. Аднак і ён прызнаваў, што рэжым літоўскай "акупацыі" быў дастаткова мяккім, культура ВКЛ зазнала значную русіфікацыю, станоўчым быў і факт вызвалення ад Арды (Грушевський, 1993: 5). Цікавымі з'яўляюцца назіранні М. Грушэўскага наконт ролі ўкраінскага фактара ў войнах за галіцка-валынскую спадчыну паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Польскім Каралеўствам. На першы погляд можа здавацца, што землі Русі ў гэтым супрацьстаянні

не мелі яўнай суб’ектнасці і займалі абыякавую, пасіўную пазіцыю. Аднак, як лічыць Грушэўскі, гэта залішняе спрашчэнне сітуацыі. *“Русь не була такою пасивною, як виглядало б з буквального змісту джерел, але, здаєть ся, її участь не була й так енерґічна, як могли б надіяти ся ми, міряючи ex post значіннє сеї війни її результатами”,* – піша ён (Грушевський, 1993: 5). І зноў жа, асабліва падкрэсліваецца роля адмысловага сімбіёзу, узаемапранікнення Русі і Літвы. *“Lithuani – се тільки політична, властиво – дінастична фірма, в дійсности ж боротьбу ведуть Русини під проводом своїх нових князїв з литовської династиї”,* – гаворыць пра гэта Грушэўскі (Грушевський, 1993: 5).

Названы сімбіёз Русі і Літвы Грушэўскі лічыць хутчэй пазітыўнай справай, ва ўсялякім выпадку, у тых гістарычных умовах, калі ўкраінскім землям трэба было кансалідавацца вакол адзінага цэнтра і абараняцца ад знешніх ворагаў. *“Литовська зверхність не мала, або дуже мало мала характер етноґрафічно-чужий. В. кн. Литовське й литовська княжа династия в середині XIV в. литовськими були більше з імени тілько. Уже Гедимин, як ми бачили, звав себе «королем литовським і руським»”* (Грушевський, 1993: 9). Пры гэтым Грушэўскі выказвае і звыклыя для тагачаснай украінскай гістарыяграфіі ідэі пра тое, што далучэнне Украіны да Польшчы, наогул распаўсюджванне польскіх і каталіцкіх уплываў мела больш негатыўны характар. Аб’яднанне ж з ВКЛ наадварот магло дапамагчы ў супрацьстаянні з Польшчай: *“польсько-литовська боротьба за руські землї властиво була україньсько-польською боротьбою, боротьбою українських земель, що під проводом литовських князїв хотіли оборонити ся від польського завойовання”* (Грушевський, 1993: 5).

Такім чынам, для Міхаіла Грушэўскага далучэнне ўкраінскіх земляў да ВКЛ, нягледзячы на адносна жорсткую знешнюю рыторыку, таксама выглядае як хутчэй станоўчы, неабходны ў тых умовах факт. Інтарэс выклікае і тое, як Грушэўскі тлумачыць малую колькасць гістарычных крыніц, якія сведчаць пра пераход украінскіх земляў у склад ВКЛ, а таксама тое, што літоўскі перыяд мала адбіўся на грамадскай свядомасці. На яго погляд, гэта ў пэўнай ступені з’яўляецца вынікам таго, што панаванне Вялікага Княства Літоўскага было даволі мяккім і не змяняла кардынальна традыцыйнае палітычнае, сацыяльна-эканамічнае, культурнае жыццё на землях Русі. М. Грушэўскі піша пра гэта так: *“Тому так непримітно переходило прилученнє українських земель до в. кн. Литовського. Тому-ж, між иньшим, і такі незначні слїди лишило воно в сучасних джерелах, а що важнійше – не відбило ся глубше в місцевій традициї”* (Грушевський, 1993: 9).

Нельга не ўспомніць і артыкул М. Грушэўскага “Звичайна схема «русскої» історії й справа раціонального укладу історії східного слов'янства” (першае выданне ў 1904 годзе), якая значна паўплывала на канцэпцыі далейшай украінскай гістарыяграфіі (Бобіна,

2002: 15–16). У дадзенай працы М. Грушэўскі разглядае літоўскі перыяд як арганічную частку гісторыі Украіны. Сама ж украінская дзяржава ўзыходзіць да гістарычнай пераемнасці Кіеўская Русь – Галіцка-Валынская дзяржава – Вялікае Княства Літоўскае – казаччына. Пры гэтым падкрэсліваецца розніца з гісторыяй Маскоўскай дзяржавы, якая, па меркаванні Грушэўскага, узыходзіла да Уладзімірскага княства. *"Київський період перейшов не у володимиро-московський, а в галицько-волинський XIII в., потім литовсько-польський XIV–XVI вв. Володимиро-Московська держава не була ані спадкоємницею, ані наступницею Київської, вона виросла на своїм корені"* (Грушевський, 1991б: 5).

Зараз звернемся да твораў прадстаўнікоў правакансерватыўнага крыла ўкраінскага нацыянальнага руху. Гэты палітычны напрамак у першай палове XX стагоддзя атрымаў назву "тэорыі ўкраінскага манархізму" ці проста "ўкраінскага кансерватызму". Па сутнасці гэта і ёсць манархічны кансерватызм, што быў скіраваны на падтрымку ідэі Гетманата, які атрымаў практычную рэалізацыю ў выглядзе Украінскай дзяржавы на чале з гетманам Паўлам Скарападскім (1918). Гэты кірунак у пэўнай ступені супрацьстаяў рэспубліканскаму напрамку ўкраінскага нацыянальнага руху, іх прадстаўнікі нярэдка ўступалі ў жорсткую ідэалагічную палеміку адносна вызначэння далейшага напрамку развіцця Украіны. Прасочым, ці ёсць розніца ў іх гістарычных поглядах на "літоўскі" перыяд уласнай гісторыі.

Так, лідар Украінскай народнай партыі, ідэолаг незалежнасці Украіны **Мікалай Іванавіч Міхноўскі** (1873–1924), які склаў праграмны дакумент "Самостійна Україна" (1900), наступным чынам адзначае літоўскую эпоху ўкраінскай гісторыі: *"перед нами виникає Литовсько-Руське Князівство, де геній нашого народу був культурним фактором"* (Міхновський, 2002: 21). Як бачым, тут зноў ідзе зварот да значнасці земляў Русі (у тым ліку і ўкраінскіх) у сэнсе іх культурных уплываў на жыццё ВКЛ. Хоць перыяды існавання на тэрыторыі Украіны незалежных княстваў – перадусім Кіеўскага і Галіцка-Валынскага – у М. Міхноўскага атрымліваюць, натуральна, больш значную ацэнку (Міхновський, 2002: 21).

Адным з галоўных ідэолагаў украінскага кансерватызму і арганізатараў так званага "Гетманскага руху" быў **Вячаслаў Казіміравіч Ліпінскі** (1882–1931). Стваральнік у 1914 годзе Саюза вызвалення Украіны, пасля расійскай рэвалюцыі – арганізатар Украінскай дэмакратычна-хлебаробскай партыі, падчас Гетманату – дыпламат, пазней – дзеяч украінскай эміграцыі, – гэта вельмі сціслая біяграфічная даведка пра В. Ліпінскага. Ён таксама з'яўляецца аўтарам шэрагу публіцыстычных, палітычных, гістарычных прац.

Вялікую ўвагу В. Ліпінскі надаваў распрацоўцы тэорыі эліт. Увага да праблем гістарычнага функцыянавання грамадска-палітычных эліт, падкрэсліванне іх значнасці для гістарычнага развіцця наогул

вельмі характэрныя для тэарэтыкаў украінскага кансерватызму. Па гэтым пытанні яны нярэдка разыходзіліся з дзеячамі крыху больш ліберальнага, рэспубліканскага кірунку. У гэтым святле для нас асаблівую цікавасць ўяўляе польскамоўная праца В. Ліпінскага "Szlachta na Ukrainie. Udział jej w życiu narodu ukraińskiego na tle jego dziejów", якая выйшла ў Кракаве ў 1909 годзе. У гэтай працы ён, сярод іншага, адзначыў важнасць *"першага падзелу ўкраінскіх земляў"* у выніку вайны за галіцка-валынскую спадчыну і так ахарактарызаваў іх далейшае далучэнне да ВКЛ: *"A jednocześnie z tym rozpoczynającym się pochodem Polski w ziemie ukraińskie, odbywało się w dalszym ciągu spokojne i powolne zajmowanie tych ziem przez Litwę, zapoczątkowane jeszcze w zaraniu wieku XIV na ruinach rozgromionego państwa kijowskiego"*[1] (Lipiński, 1909: 12–13). Як бачым, і тут падкрэсліваецца "спакойнае" далучэнне ўкраінскіх земляў да ВКЛ, што тлумачыцца заняпадам ранейшай кіеўскай дзяржаўнасці.

У рабоце "Szlachta na Ukrainie" В. Ліпінскі ўжо традыцыйна для ўкраінскай гістарыяграфіі падкрэслівае важнасць русінскага культурнага элемента ВКЛ: *"Stojąc niżej pod względem kulturalnym od zdobywanych ziem słowiańskich, ukraińsko-białoruskich – Litwini przyjmowali ich kulturę i, dając im tylko książąt swojej dynastji, nie zmieniali i nie niszczyli istniejących stosunków społecznych"*[2] (Lipiński, 1909: 13). У гэтым сэнсе думкі В. Ліпінскага фактычна цалкам супадаюць з ідэямі М. Грушэўскага і У. Антановіча.

Станоўчыя ацэнкі атрымлівае у дадзенай працы В. Ліпінскага існаванне пэўны час у складзе ВКЛ аўтаномных Кіеўскага і Валынскага княстваў, дзеянні князя Свідрыгайлы падчас грамадзянскай вайны 1430-х гадоў. У той жа час Ліпінскі негатыўна ставіцца да цэнтралізатарскай палітыкі ўрада ВКЛ і пераводу Кіеўскага княства Алелькавічаў на статус звычайнага намесніцтва, а таксама лічыць само ВКЛ краінай, якая складалася з вельмі розных этнічных і канфесійных элементаў, супярэчнасці паміж якімі значна аслаблялі гэтую дзяржаву (Lipiński, 1909: 14–17). І зноў жа, вельмі негатыўна адзначаюцца польскія ўплывы, далучэнне часткі ўкраінскіх земляў да Польшчы разумеецца як "акупацыя" (Lipiński, 1909: 12), у той жа час у адносінах да ВКЛ В. Ліпінскі такі тэрмін не выкарыстоўвае. Пры гэтым Украіна, Беларусь і Літва разумеліся для В. Ліпінскага як адзіны палітычны цэнтр, што супрацьстаяў унійным памкненням Польшчы: *"Między Litwą, Białorusią i Ukrainą z jednej strony, a Polską z drugiej, rozpoczęła się zawzięta walka o przewagę polityczną, a co za tern*

1 А разам з тым распачатым паходам Польшчы ва ўкраінскія землі ў далейшым адбывалася спакойнае і павольнае займанне гэтых земляў Літвой, якое было пачата яшчэ ў пачатку XIV стагоддзя на руінах разгромленай кіеўскай дзяржавы. – *Пераклад аўтара.*

2 Літвіны, якія з пункту гледжання культуры стаялі ніжэй за здабытыя славянскія землі, прымалі іх культуру і, даючы ім толькі княжат сваёй дынастыі, не змянялі і не нішчылі існых грамадскіх адносін. – *Пераклад аўтара.*

*idzie i o losy samego Wielkiego Ks. Litewskiego"*[3] (Lipiński, 1909: 14).

В. Ліпінскі адзначаў важнасць фарміравання і далейшага функцыянавання нацыянальнай эліты. У працы "Szlachta na Ukrainie" ён даказваў, што старажытнаруская княжацкая эліта, якая перайшла ў мясцовую ўкраінскую эліту часоў ВКЛ, у далейшым была моцна спаланізавана і акаталічана. Таму пасля аднаўлення ўкраінскай дзяржаўнай незалежнасці каталіцкай паланізаванай шляхце Украіны трэба вызначыцца: ці яна стане на патрыятычныя пазіцыі і ўсвядоміць сябе ўкраінцамі-каталікамі, ці працягне падтрымліваць "каланізатараў" і знікне з гістарычнай арэны (Lipiński, 1909: 73–85). Сам жа В. Ліпінскі быў шляхцічам-каталікам, пры гэтым ён заўсёды выступаў за адзінства ўсіх украінцаў розных хрысціянскіх канфесій.

В. Ліпінскі выказваў сваё стаўленне да "літоўскага" перыяду ўкраінскай гісторыі ў шэрагу публікацый. Сярод іх і праца "Релігія і церква в історії України", апублікаваная ў эміграцыі ў Філадэльфіі ў 1925 годзе. Вялікае Княства Літоўскае, як лічыць В. Ліпінскі, паўстала праз асіміляцыю "новых заваёўнікаў" мясцовай рэлігіяй, культурай, а таксама і рэшткамі былой мясцовай княжацка-дружыннай эліты (Липинський, 1935: 32). Пры гэтым у працах Ліпінскага выразна прасочваецца думка пра тое, што ўкраінскія землі ў складзе ВКЛ знаходзіліся ў значна больш спрыяльных культурных, рэлігійных умовах, чым пазней, пасля Люблінскай уніі, у складзе Польшчы, дзе адбывалася дэнацыяналізацыя ўкраінскай палітычнай эліты (Липинський, 1935: 33).

Значную гістарыяграфічную спадчыну пакінуў і **Дзмітрый Іванавіч Дарашэнка** (1882–1951) – украінскі палітык, сябар Цэнтральнай Рады, удзельнік гетманскага руху і міністр замежных спраў Украінскай дзяржавы ў 1918 годзе. Пасля з'яўляўся дзеячам эміграцыі, быў прафесарам гісторыі ўніверсітэтаў Вены, Прагі і Мюнхена. Д. Дарашэнка з'яўляецца аўтарам цэлага шэрагу прац па гісторыі ўкраінскай дзяржаўнасці, праваслаўнай царквы, гістарыяграфічных аглядаў.

У 1932–1933 гадах у Варшаве выйшлі два тамы працы Д. Дарашэнкі "Нарис історії України". У першым томе гэтай працы, які ахоплівае разгляд гісторыі Украіны ад старажытнасці да першай паловы XVII стагоддзя, украінскім землям у складзе ВКЛ прысвечаны дзявяты, часткова восьмы і дванаццаты раздзелы. Аўтар разглядае працэс далучэння ўкраінскіх земляў да Вялікага Княства Літоўскага вельмі бегла, але дае свае ацэнкі гістарычнаму сэнсу гэтых падзей. Увогуле, Д. Дарашэнка падзяляе асноўныя канцэпцыі і ацэнкі наконт "літоўскага" перыяду гісторыі, што склаліся ў ранейшай украінскай гістарыяграфіі. Пры гэтым ён выказвае думку, што татарскае заваяванне земляў Русі далёка не заўсёды было такім разбуральным,

[3] Паміж Літвой, Беларуссю і Украінай, з аднаго боку, і Польшчай, з другога, пачалася заўзятая барацьба за палітычную перавагу і, такім чынам, за лёс самога Вялікага Княства Літоўскага. – *Пераклад аўтара.*

як лічыцца традыцыйна, хоць і ацэньвае яго безумоўна негатыўным (Дорошенко, 1932: 66–67). Падпарадкаванне большай часткі ўкраінскіх земляў ВКЛ ён адносіць да часоў Альгерда і Сіняводскай бітвы, якую датуе 1363 годам і якую лічыць галоўнай прычынай аслаблення мясцовых княстваў падчас татарскага заваявання. Прычынай далучэння да ВКЛ беларускіх земляў Дарашэнка пазначае іх слабасць з-за раздробленасці на мноства княстваў (Дорошенко, 1932: 69).

Д. Дарашэнка, гаворачы ў сваіх працах пра падпарадкаванне земляў Украіны ВКЛ, выкарыстоўвае тэрмін "окупація". Аднак пры гэтым ён таксама падкрэслівае адносна "мірны" характар гэтай інкарпарацыі. На погляд Д. Дарашэнкі, прычына гэтага ў многім палягае ў тым, што князі ВКЛ захоўвалі на землях Русі ранейшы грамадска-палітычны лад. *"Литва не мала свого виробленого державного апарату, що найбільше вона могла дати князя. Тому залишалася на місці вся прежня управа"* (Дорошенко, 1932: 70). Нагул палітычныя адносіны паміж мясцовымі князямі Русі і цэнтральнымі ўладамі ВКЛ, па меркаванні Д. Дарашэнкі, можна выказаць наступнай формулай: *"Здебільшого роблено було обопільні умови: великий князь литовський зобовязувався давати «оборону» князю руської землі, а цей обіцяв йому «покору»"* (Дорошенко, 1932: 70). Таксама, канешне ж, нямала ўвагі Д. Дарашэнка надае і культурным чыннікам: "русіфікацыі" ВКЛ, распаўсюджванню там праваслаўнага хрысціянства. Сапраўды, аргументы, якія ў першай палове XX стагоддзя ўжо з'яўляліся традыцыйнымі.

Пры гэтым Д. Дарашэнка мяркуе, што ВКЛ хоць і было літоўска-рускай дзяржавай, але так і не змагло канчаткова знітаваць два гэтыя элементы. Падтрымлівае Д. Дарашэнка і традыцыйна негатыўную для ўкраінскай гістарыяграфіі ацэнку польскіх уплываў, а таксама распаўсюджвання каталіцызму: *"Але при всім тім в державі виявився антаґонізм литовського й руського елементу, антаґонізм, який навмисне піддержували поляки. Між українсько-білоруськими князями й боярами з одного боку, а литовськими з другого було вбито клин – римо-католицьку віру й звязані з нею привілеї"* (Дорошенко, 1932: 71). Паўстанне князя Свідрыгайлы 1430-х гадоў, лічыць Д. Дарашэнка, абапіралася на "рускую партыю", змова князя Міхаіла Алелькавіча 1481 года была рэакцыяй украінскіх князёў на цэнтралізатарскую палітыку ВКЛ і ліквідацыю аўтаноміі Кіеўскага княства, калі *"українська ірредента підняла голову"* (Дорошенко, 1932: 71).

Закранем крыху і гістарычную спадчыну доктара **Дзмітрыя Іванавіча Данцова** (1883–1973). Украінскі палітычны дзеяч, юрыст, філосаф, удзельнік гетманскага руху, Д. Данцоў з'яўляўся адным са стваральнікаў Украінскай дэмакратычна-хлебаробскай партыі, а таксама чыноўнікам пры ўрадзе П. Скарападскага. У гісторыю грамадскай думкі ён увайшоў перадусім як заснавальнік ідэалогіі ўкраінскага інтэгральнага нацыяналізму – адной

з праяваў правай палітычнай плыні, асноўныя палажэнні якой былі сфармуляваны ў фундаментальнай працы “Націоналізм” (1926).

Падрабязна пытанні далучэння ўкраінскіх земляў да ВКЛ і далейшы гістарычны перыяд Д. Данцоў не разглядае, але нам будзе цікава звярнуцца да самой яго канцэпцыі тэорыі эліт, у тым ліку ў гісторыі Украіны. У гэтым кантэксце важна прасачыць, якую ацэнку паводле Д. Данцова атрымлівае палітычная эліта Вялікага Княства Літоўскага ва ўкраінскай гісторыі.

Дзмітрый Данцоў – сапраўды адзін з галоўных ідэолагаў правай тэорыі эліт ва ўкраінскім нацыянальным руху. На яго погляд, эфектыўнае функцыянаванне моцнай нацыянальнай эліты – найважнейшая ўмова гістарычнага выжывання народа і дзяржавы. У гэтым сэнсе вялікую крытыку ад Д. Данцова атрымліваюць многія з прадстаўнікоў крыху больш левай, рэспубліканскай плыні нацыянальных сіл (Донцов, 2005: 212–226). Гэта ў поўнай меры датычыцца крытыкі Данцовым М. Грушэўскага, які лічыў, што галоўным рухавіком нацыянальнага развіцця з'яўляюцца народныя масы, і адзначаў, што значная частка арыстакратыі стала залішне адарванай ад народа.

Для Д. Данцова адной з галоўных задач новай украінскай дзяржавы з'яўляецца стварэнне знітаванай нацыянальнай эліты, традыцыя якой генетычна ўзыходзіць у глыбіню стагоддзяў. Першай такой ваенна-палітычнай элітай на ўкраінскіх землях была “варяго-руська князівська каста” (Донцов, 2005: 214). А ў цэлым неабходнасць пераемнасці сучаснай і старажытнаўкраінскай эліт выказваецца Д. Данцовым у яго працы эміграцыйнага перыяду “Дух нашої давнини” (1944) наступным чынам: *“Лише в прикметах життєвім стилі володарських верств князівської Русі, литовсько-руського лицарства й козацької старшини, так основно сплюгавлених апостолами черні, може спустошена країна наша знайти спасенний вихід”* (Донцов, 2005: 210–211). Таму не выклікае здзіўлення, што Данцоў рэзка крытыкуе праціўнікаў ідэі пра вырашальную ролю ваенна-палітычнай эліты ў дзяржаўным развіцці. Гэтая крытыка атрымлівае дастаткова жорсткія формы: *“Грушевський нехибнім інстинктом смерда винаходив серед князівських «забіяк» одного праведника, що не любив воєнних подвигів, лише займався милостинею”,* – заяўляе Данцоў (Донцов, 2005: 216). Такім жа чынам выступае Данцоў і супраць поглядаў ранейшага гісторыка Панцеляймона Куліша, які лічыў казацтва дэструктыўнай сілай у гісторыі Украіны (Донцов, 2005: 220, 223–224, 228).

Такім чынам, хоць Д. Данцоў і не разглядае падрабязна “літоўскі” перыяд украінскай гісторыі, эпоха ВКЛ цалкам укладаецца ім у нацыянальную традыцыю ўкраінцаў, што знаходзіць сэнс ў працэсе пераемнасці гістарычных эліт. “Литовсько-руське лицарство” для Д. Данцова займае натуральнае месца паміж старажытнарускімі князямі і казаччынай у якасці тагачаснай формы арыстакратычнай, ваенна-палітычнай эліты, а значыць з'яўляецца адным з папярэднікаў сучаснай

нацыянальнай эліты Украіны. Нашмат большую ўвагу Д. Данцоў, канешне, надае часам Старажытнай Русі і казацкага руху, але і перыяд ВКЛ, як бачым, разумеецца ім арганічнай часткай украінскай гісторыі.

Такім чынам, дзеячы ўкраінскага нацыянальнага руху XIX – першай паловы XX стагоддзя ў цэлым хоць і лічылі Вялікае Княства Літоўскае іншаземным дзяржаўным утварэннем, прызнавалі спрыяльныя ўмовы для кансалідацыі, а таксама культурнага і эканамічнага развіцця ўкраінскіх земляў у яго складзе. Пры гэтым мы не можам не адзначыць устойлівасць ацэнкі “літоўскага” перыяду. Яшчэ ў сярэдзіне – другой палове XIX стагоддзя такія гісторыкі і грамадскія дзеячы, як М. Кастамараў, У. Антановіч і іншыя, апісваюць далучэнне ўкраінскіх земляў ВКЛ як дастаткова пазітыўны працэс. Такі падыход захоўваецца і ў нацыянальных дзеячаў канца XIX – першай паловы XX стагоддзя. Нягледзячы на крыху больш жорсткую рыторыку ў некаторых з іх, у змесце іх прац не выяўлена сапраўды сур’ёзных негатыўных ацэнак перыяду ВКЛ. Не моцна ўплывае на гэтыя ацэнкі і прыналежнасць некаторых гістарыёграфаў да розных плыняў украінскага нацыянальнага руху, якія можна ўмоўна вызначыць як нацыянальна-дэмакратычную (М. Грушэўскі і інш.) і кансерватыўна-манархічную (В. Ліпінскі, Д. Дарашэнка і інш.). Праўда, сярод дзеячаў кансерватыўнай плыні значна большая ўвага традыцыйна надавалася даследаванню гістарычных эліт, што, аднак, таксама амаль не змяняе агульных характарыстык часоў ВКЛ ва ўкраінскай гісторыі.

Зазначым таксама, што амаль усе з названых дзеячаў украінскага нацыянальнага руху XIX – першай паловы XX стагоддзя, якія пакінулі нам гістарыяграфічную спадчыну, нярэдка звярталіся і да розных аспектаў беларускай гісторыі. Яны добра ўсведамлялі блізкасць гістарычнага шляху нашых краін і народаў, якія выйшлі з аднаго кораня гістарычнай Русі і прайшлі праз доўгі і насычаны падзеямі перыяд Вялікага Княства Літоўскага.

**Літаратура**


1. Антонович, Володимир (1866). *Очерк отношений польского государства к православию и православной церкви.* Київ.
2. Антонович, Володимир (1995а). “Киев, его судьбы и значение с XIV по XVI столетие (1362–1569)”, у О. Тодійчук і інш. (рэд.), *Моя сповідь: Вибрані історичні та публіцистичні твори.* Київ: Либідь.
3. Антонович, Володимир (1995б). “Очерк истории Великого княжества Литовского до смерти великого князя Ольгерда”, у О. Тодійчук і інш. (рэд.), *Моя сповідь: Вибрані історичні та публіцистичні твори*. Київ: Либідь.
4. Бобіна, Олег (2002). *Історіографія історії України.* Миколаїв: УДМТУ.
5. Грушевський, Михайло (1967). *Ілюстрована історія України-Руси.* Нью-Йорк.
6. Грушевський, Михайло (1991а). “Велика, Мала і Біла Русь”, *Український історичний журнал,* №360(2): 77–85.

7. Грушевський, Михайло (1991б). "Звичайна схема «русскоі» історії й справа раціонального укладу історії східного слов'янства", *Пам'ятки України,* №3: 4–7.
8. Грушевський, Михайло (1993). *Історія України-Руси,* 4. Київ: Наук. думка.
9. Грушевський, Михайло (1994). *Історія України-Руси,* 5. Київ: Наук. думка.
10. Грушевський, Михайло (1995а). *Історія України-Руси,* 6. Київ: Наук. думка.
11. Грушевський, Михайло (1995б). *Історія України-Руси,* 7. Київ: Наук. думка.
12. Донцов, Дмитро (1960). *Націоналізм.* Лондон; Торонто: Українська видавнича спілка.
13. Донцов, Дмитро (2005). "Дух нашої давнини", у *Дух нашої давнини; Де шукати наших історичних традицій.* Київ: МАУП.
14. Дорошенко, Дмитро (1932). Н*арис історії України,* 1. Варшава: УНІ.
15. Костомаров, Николай (1861). "Две русские народности", *Основа,* №3: 33–80.
16. Костомаров, Николай (1918). "Книга буття українського народу", *Наше минуле,* №1: 1–21.
17. Липинський, В'ячеслав (1925). *Релігія і церква в історії України.* Філадельфія: Америка.
18. Міхновський, Микола (2002). *Самостійна Україна.* – Київ: Діокор.
19. Русина, Олена (1993). *Темні віки, XIV – перша половина XV ст.* Київ: Україна.
20. Русина, Олена (2005). *Студії з історії Києва та київської землі.* Київ: Ін-т історії України НАМ України.
21. Lipiński, Wacław (1909). *Szlachta na Ukrainie. Udział jej w życiu narodu na tle jego dziejów.* Kraków: skł. gł. Księgarnia D. E. Friedleina.